

# ЭТИ СТРАННЫЕ, странные немцы или записки гастарбайтера

**(Продолжение. Начало в №№17,18)**

Все мы знаем поговорку: "В чужой монастырь со своим уставом не ходят!" И, естественно, приехав за границу, вы, как гости, должны придерживаться порядков, заведённых хозяевами. Например, вы пришли в магазин. Недорогими магазинами в Германии считаются: " Альди", "Лидл", "Вальмаркт", "Пенни", "Маркт" и др. Перед выходом или внутри будут стоять коляски для закупок (если у вас маленький ребёнок, то коляска для него в виде детской машинки). Вы вкладываете в специальное гнездо одну марку или жетон и берёте коляску. После закупок ставите коляску на место и забираете свою марку. Во всех больших магазинах двери открываются автоматически при приближении посетителя. Есть там также камеры хранения, на тот случай, когда вы уже имеете при себе какие-то покупки. Кладёте вещи в камеру, бросаете монетку в отверстие, закрываете ящик и забираете ключик. Сделав закупки — та же процедура, что и с коляской, только ключ остаётся в дверце камеры. Если вы пришли с детьми и не хотите, чтобы они вам мешали, то в фойе будут для них всевозможные игры, машины и т. п. Не удивляйтесь, если в магазине продавец даст вашему ребёнку чупа-чупс или, например, в мясном отделе отрежет для него вкусный кусок полендвички... Частенько в магазинах устраивают дегустации: сыры, колбасы, хлеб, вино. Короче, дегустируют, что угодно, и всё — бесплатно.

Допустим, около винного отдела будет находиться стойка с шестью перевёрнутыми бутылками сухих вин. Вместо пробки у них какое-то приспособление в виде пропеллера. Тут же брошюрки с описанием этих вин и маленькие разовые стаканчики. Нажимаешь стаканчиком снизу на "пропеллер" и получаешь 50 г вина. Если "продегустируешь" все шесть бутылок, то уже надо срочно искать, где здесь дегустируют сыры и колбасы.

В преддверии праздника или какого-нибудь юбилея в магазинах могут устраивать сладкий стол: сам подходишь к сервированному тортами столу, выбираешь понравившиеся тебе "экземпляры", сам наливаешь себе чай или кофе..., одним словом, — этакий мелкий подарок дирекции своим посетителям. Мелочь, а приятно. Чувствуешь заботу и внимание к посетителю.

А теперь о самой важной особенности немецкого сервиса: не удивляйтесь, когда женщина на кассе с вами поздоровается; будьте готовы при расчёте раз десять сказать "битте" и "данке", спокойно отнеситесь к её пожеланию "хорошо провести выходные" и не забудьте пожелать ей того же. Может, кому-то это покажется излишеством, ведь мы не привыкли к таким "политесам"! Но со временем понимаешь, что это нормально, что так оно должно и быть. За каждую, даже мелкую услугу ты должен поблагодарить человека. Если кто-то кого-то зацепил нечаянно локтем или наступил на улице на ногу, вы можете стать свидетелем комической сценки, когда два человека несколько минут друг перед другом извиняются за причинённое неудобство. Можно сказать, что вежливость — одна из национальных черт немцев. И это распространяется на все стороны жизни. Полицейский, не повышая голоса, с грустной улыбкой на лице оштрафует вас за переход улицы на красный свет. Но будьте осторожны: несколько таких нарушений — и вы распрощаетесь со своей визой. Кстати, чтобы попасть на работу в полицию, необходимо несколько лет учиться в специальном учебном заведении. Знакомый полицейский крайне удивился, когда узнал, что у нас можно идти в милицию, отслужив в армии, т.е. без специального полицейского образования. Для них это немыслимо, так же, как немыслимы и взятки, которые иногда пытаются всучить им наши проштрафившиеся автолюбители. Среди немецких полицейских заметен демократизм в отношении внешнего вида: много бородатых, встречаются и длинноволосые с косичками... В полиции работает много женщин, которые несут дежурство наравне с мужчинами. По моим наблюдениям, немецкая полиция слишком либеральна. Однажды ночью кто-то позвонил в участок и попросил разогнать группу мотоциклистов, тарахтевших во дворе многоэтажки. Один из хулиганов хватал полицейского за грудки, доказывая, что он имеет право здесь быть. Наши хлопцы сразу бы начали лупить палками и сажать в "воронок", а эти долго и нудно упрашивали разъехаться по домам.

Другой раз мне пришлось быть свидетелем разгона драки между албанской молодёжью и "русаками". Из толпы албанцев один парень минут десять выкрикивал в сторону полицейских отборные немецкие ругательства и показывал оскорбительные жесты. Наконец кто-то из стражей порядка не выдержал, вывел его из толпы и пристегнул наручниками к футбольным воротам. Но и после этого поток ругательств не прекратился.

Знакомый "русак" рассказывал, как однажды ночью он в сильном подпитии возвращался из соседней деревни. Когда рядом остановилась полицейская машина, он перепугался и долго отнекивался, не хотел в неё залазить. Доблестные полицейские завезли его под самый порог и отдали прямо в руки жене.

**Иван ХОХОЛ**

ІНТЭРВ'Ю

# Дзмітрый Мазырка: "ПРА НАС ВЕДАЮЦЬ У ЛЮКСЕМБУРГУ"

**На вуліцы Перамогі ў Дзятлаве ёсць невялікі сіні будынак. Ужо трыццаць пяць гадоў там размяшчаецца музычная школа. Палова выкладчыкаў — яе былыя выпускнікі.**

З мінулага года школа перайменавана ў школу мастацтваў. Хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца там не толькі іграць на музычных інструментах, але і маляваць.

Гордасць школы — юная скрыпачка Караліна Орсік. Пра Караліну і, наогул, пра Дзятлаўскую школу мастацтваў была перадача па абласному тэлебачанню.

Больш дваццаці гадоў дырэктарам працуе Дзмітрый Іванавіч Мазырка — таленавіты музыкант і педагог, інтэлігент, разумны і добразычлівы чалавек.

***— Дзмітрый Іванавіч, колькі дзяцей займаецца ў школе мастацтваў?***

— На пачатку навучальнага года было 230, цяпер — 219.

***— Чым абумоўлены адсеў?***

— Некаторыя пайшлі ў акадэмічны водпуск па стану здароўя, а некаторыя па гэтай прычыне кінулі вучобу, некаторыя не асілілі праграмы. Ёсць такія хлопчыкі і дзяўчынкі, чые бацькі з-за мізэрнай зарплаты не маюць магчымасці заплаціць за вучобу.

***— Хіба такая вялікая плата?***

— Гледзячы для каго. Калі чалавек атрымлівае за месяц трыццаць тысяч рублёў, то дзве з паловай тысячы, якія трэба плаціць за навучанне піяніста, адчуваюцца на сямейным бюджэце. Акардыяністы і баяністы плацяць менш. Словам, на кожны інструмент ёсць свае расцэнкі.

***— Ваша школа ганарыцца сваімі выхаванцамі, бо яны праславілі яе далёка за межамі раёна і нават вобласці. Раскажыце, калі ласка, аб гэтым больш падрабязна.***

— Нашы выхаванцы пастаянна ўдзельнічаюць у абласных, рэспубліканскіх конкурсах і нават за межамі Беларусі. І паспяхова. Напрыклад, мы занялі першае месца ў вобласці па баяну, цымбалах, скрыпцы. Юная скрыпачка Караліна Орсік прымала ўдзел у прэстыжным рэспубліканскім конкурсе імя Валадарскага, дзе заняла трэцяе месца. Перамога Караліны вельмі радуе, бо ў гэтым конкурсе ўдзельнічалі дзеці з усіх куткоў Беларусі. У многіх з іх значна лепшыя ўмовы для падрыхтоўкі, чым у нас.

Баяністка Наталля Буцар была запрошана ва ўкраінскі горад Луганск для ўдзелу ва Ўсеукраінскім конкурсе імя дынастыі музыкаў Ваяводзіных. Яна заняла там трэцяе месца і атрымала дыплом і памятны падарунак.

Караліна Орсік прызнана лепшай юнай скрыпачкай вобласці. Гэта вызначылася на спецыяльным конкурсе. Пра таленавітую дзяўчынку даведаліся ў Люксембургу. Асабіста для яе адтуль у падарунак прывезлі цудоўную скрыпку ў вельмі прыгожым футляры, а школе падарылі гітару, скрыпку і саксафон.

***— Канкрэтна, хто падарыў?***

— Прэзідэнт тамашняй асацыяцыі "Дзецям Чарнобыля" Ніко Фіксмер. Ён кожны год прыязджае ў Дзятлава і дапамагае таленавітым дзецям усім, чым толькі можа. Дарэчы, не толькі нашай школе, але і агульнаадукацыйным школам Дзятлава.

***— Ці задавальняе Вас, як дырэктара, матэрыяльная база школы?***

— Інструменты ў нас ёсць усе, і ўсе ў добрым стане. Маем музычныя інструменты, зробленыя ў славутай Туле, а таксама — у Германіі.

Дрэнна тое, што мастацкае аддзяленне не мае памяшкання для заняткаў. Дзеці туляцца ў непрыстасаваным пакоі. Там цёмна і холадна. Трэба адзначыць, што будынак школы даўно трэба рамантаваць.

У нас 29 выкладчыкаў і ўсяго 15 пакояў для заняткаў. Многім даводзіцца займацца ў калідорах. Цяжка выкладчыкам, цяжка дзецям.

***— І якое ж выйсце са становішча?***

— Пакуль ніякага. Няма ў бюджэце грошай, каб пабудаваць новую школу, і невядома, калі яны з'явяцца.

**Гутарыла Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**



*На сцэне настаўніца Маргарыта Ламака і выхаванка музычнай школы Караліна Орсік*

НАВІНЫ

## МОЛОДЁЖЬ ОБЪЕДИНЯЕТСЯ

**Десять молодежных организаций Гродно объединились в коалицию "Твой выбор!".**

Главным мотивом объединения стало желание скоординировать действия накануне президентской кампании. В коалицию вошли представители "Маладога фронту", "Маладой Грамады", "Молодежи ОГП", "Гражданского форума" и других организаций.

Члены коалиции решили общими усилиями проводить кампанию по привлечению молодежи к участию в президентских выборах. В перспективе коалиция намерена поддерживать единого кандидата от объединенной оппозиции.

**Юлия ДОРОШКЕВИЧ**

## ВЕЧАРЫНА ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ

**У Міжэвіцкім цэнтральным Доме культуры сумесна з мясцовай бібліятэкай прайшла вечарына, прысвечаная 15-годдзю Чарнобыльскай аварыі - "Чарнобыль - наш боль".**

Сродкі на правядзенне гэтага мерапрыемства выдзеліў калгас "Міжэвічы". Для прысутных арганізатары наладзілі канцэрт мастацкай самадзейнасці і накрылі саладкі стол. Потым выступіла настаўніца школы Мацыновіч Юзэфа Вітальеўна, перасяленка з Чарнобыльскай зоны. Яна ўспамінала тыя апошнія дні перад перасяленнем. Напрыканцы вечарыны прысутныя падзякавалі за ўвагу да іх.

**Кацярына ЛАБАР**

## В МИРЕ САМОЦВЕТОВ

**В Слонимском краеведческом музее открыта выставка "Созвездие камней", привезенная к нам из России.**

По многочисленным просьбам жителей города эта выставка работает вторично. На ней представлены разноцветные ювелирные изделия. Посетители увидят здесь серебряные кольца, броши, колье, гарнитуры с аметистами, топазами, горным хрусталем и др. Посетители полюбуются картинами из яшмы, оникса, выполненными из крошки 60 минералов. Любители искусства также смогут увидеть большую коллекцию нэцкэ.

Выставку можно посетить не только ради интереса, желающие могут приобрести на ней понравившиеся экспонаты.

Выставка работает до 13 мая.

**Людмила САДЫХОВА**

## МЕНЬШИНСТВА НЕМНОГО ПОСОВЕЩАЛИСЬ

**Всего три человека стали участниками семинара "Опыт борьбы белорусских и шведских геев за свои права", который прошел в Гродно 3 мая.**

Его организовали главный редактор белорусского журнала "Forum lambda" Эдвард Тарлецкий и международный секретарь Шведской ассоциации сексуального равенства (RFSL) Стиг-Оке Петерсен.

По словам Эдварда Тарлецкого, ему необходимо найти в Гродно координатора, который бы получал и распространял в областном центре информацию о жизни минских геев. В ходе семинара редактор журнала рассказал о существующих в отношении представителей сексуальных меньшинств противодействиях со стороны белорусских властей.

**Павел МОЖЕЙКО**

# НАША АГУЛЬНАЯ БЯДА

**Нядаўна ў праграме БТ "Рэзананс" ішла размова пра калісьці знакаміты калгас "Рассвет" імя Кірыла Трафімавіча Арлоўскага, у якім доўгі час працаваў старшынёй Васіль Старавойтаў, які стварыў на базе "Рассвета" закрытае акцыянернае таварыства, а потым патрапіў за краты.**

У той перадачы на экране засвяціўся новы расветаўскі старшыня В.Іваноў, які спаслаўся на ранейшыя "пралікі" у гаспадаранні і выказаў незадаволенасць надоямі малака і прывагай жывёлы на фермах. А таксама паведаміў, што прыбыткі ў гаспадарцы перавысілі выдаткі толькі на 20%, а ўнутрыгаспадарчыя прадпрыемствы аказаліся нявыгаднымі, маўляў, не акупляюць сябе.

Што ж, заклапочанасць старшыні калгаса можна зразумець. Бо перад "Рассветам", як і іншымі калектыўнымі гаспадаркамі рэспублікі, з-за непарытэту цэн і іншых прычын стаіць праблема выжывання. Але навошта было рабіць спасылку на былое, якое, нібыта, сталася прычынай таго, што адбываецца цяпер.

Але давайце па-парадку.

Пасля арышту Васіля Старавойтава, напрыканцы жніўня 1998 года, я па ўласнай ініцыятыве наведаў гаспадарку. Хацелася на месцы разабрацца, што ж адбылося на самай справе. За некалькі дзён да майго прыезду арыштавалі дваіх набліжаных да былога старшыні чалавек. Натуральна, што маё з'яўленне ў калгасе выклікала падазронасць. Прыйшлося тлумачыць людзям мэту свайго візіту. Гутарыў з многімі. Былі і пакрыўджаныя на Старавойтава. Але былі і такія, хто ставіўся да былога старшыні з разуменнем. Многія негатыўна ўспрымалі вяртанне "Рассвета" да калгаснай вытворчасці. Такія адкрыта казалі, што Васіль Старавойтаў падтрымліваў уласніка-гаспадара, праяўляў самастойнасць у прыняцці рашэнняў, а гэта многім не падабалася. Словам, як звычайна бывае, думкі ў людзей на праблемы гаспадаркі і арышт старшыні раздзяліліся. А каб ва ўсім разабрацца, патрэбна зазірнуць у гісторыю калгаса, а затым акцыянернага таварыства "Рассвет".

Здавалася б, чаго лепшага было чакаць, калі на базе калгаснай вытворчасці цэнтральная сядзіба ў вёсцы Мышкавічы была адбудавана не горш за райцэнтр, а ўнутрыкалгасным прадпрыемствам нельга не пазайздросціць. Гэта піўзавод, каўбасны цэх, завод па вытворчасці керамзітных блокаў, завод па вытворчасці мінеральнай вады, два цэхі па рамонту і пашыву абутку, скураны цэх, цэнтр дрэваапрацоўкі (выраб вагонкі, распілоўка драўніны, сталярка), мэблевы цэх, бульбяны цэх (выраб бульбянога пюрэ, сушанай бульбы і г.д.), кансервавы цэх (выраб тушонкі, таматнай пасты, кампотаў і г.д.), цэх пашыву адзення, цэх па вырабу поліэтыленавых мяшэчкаў, цэх па вырабу шклопакетаў (для вокан і дзвярэй з пластыку), устаноўка па вырабу поліэтыленавай плёнкі, цэх па ўпрыгожванню кухоннай пліткі, цэх па вырабу бетонных пліт, мармуровы цэх (па вырабу помнікаў), казеінавы цэх (лінія пастэрызацыі малака і вырабу малочных прадуктаў), хлебапякарня, цагельны завод, фарба-цэх. У калгасе былі цяплічны камбінат і рыбная гаспадарка, кіслародная станцыя і бурыльная гаспадарка, так званыя "Бурводы" (білі свідравіны). Гонарам калгаса з'яўляліся санаторый "Рассвет", дом адпачынку "Чыгірынка", гасцініца, дом культуры, стадыён. А расветаўскі дзіва-сад радуе вока сваёй веліччнасцю і дагледжанасцю. І калі намаганнямі Старавойтава ўзорны калгас стаў закрытым акцыянерным


**Васіль Старавойтаў**

таварыствам і набыў новы накірунак гаспадарання, дзе кожны калгаснік з'яўляўся ўжо гаспадаром сваёй долі ўласнасці, а людзі атрымлівалі добрыя заробкі, камусьці гэта прыйшлося не па душы. Не заахвочваюцца ў нас такія формы гаспадарання на зямлі, а тым больш, калі старшыня мае сваю незалежную пазіцыю і погляд на рэчы. Наступіла расправа. Старавойтава — у турму, акцыянернае таварыства разбурылі і зноў стварылі калгас. Але ўжо не ранейшы, бо ўсё змянілася ў краіне. А для часовага супакаення людзей кінулі крэдыт. Ды крэдыт ужо праедзены, яго трэба вяртаць, і ўсё стала на свае месцы. Аптымізм у новага старшыні, як было бачна з тэлеперадачы, пачаў спадаць. Цяпер альбо новыя крэдыты і яшчэ большая фінансавая кабала, альбо жыць так, як жывуць іншыя калгасы. А гэта значыць — тупік. Вяртацца ж да ранейшай формы гаспадарання, якую вызначыў Васіль Старавойтаў, і якая была ў сваім зародкавым развіцці, — значыць, прызнаць сваю памылку. А калі гэта ўлады ў нас прызнавалі свае памылкі?

Былі часы, калі ў "Рассвет" ехалі пераймаць вопыт гаспадарання і не пуставала мясцовая гасцініца. Але кароткім аказаўся век акцыянернага таварыства. Не пашанцавала... жыць добра. І ўсім нам не пашанцавала. А праблемы, як той снежны ком, пушчаны з горкі, напластоўваюцца новымі. І не збавіцца нам ад гэтых праблем, пакуль не авалодаем майстэрствам мудрасці і згоды. А пакуль гэтага ў нас няма, то гадамі побач ідуць свара і згуба. Паміж саўкова-састарэлым малатком "зверху" і накавадлам рынычных адносін "знізу" аказалася большасць нявіннага люду. І кожны ўдар, у тым ліку і цэнамі, прыходзіцца на звычайных працаўнікоў. Дык ці праявіцца ў нас майстэрства мудрасці?

А наперадзе — выбары...

**Іван ЦІМАФЕЙЧЫК,** Зэльва

**нявыдуманая гісторыя**


Малюнак Яўгена Іванова

# БЛАКІТНАЯ ПОСЦІЛКА

На світанне яшчэ і не бралася, а Зіна Гамановіч была ўжо на нагах.

— Паспала б яшчэ, — адазвалася са свайго кутка стрыечная сястра Люба. — Уся ноч прайшла ў трывозе. Відаць, нехта на станцыі ўзарваў цыстэрны з гаручым, бо так палымнела. Толькі нядаўна стала патухаць.

— Немцы цяпер будуць стаяць на ўсіх дарогах, асабліва на пераездзе. Цяжка табе будзе праехаць. Да таго ж яны на яўрэяў аблаву ладзяць. Цяжка будзе..., — папярэдзіла Люба.

— Што ж зробіш, — прамовіла Зіна. — Не першы раз еду. Зімой цяжэй было, а цяпер — лета.

Яна і сапраўды часта наведвалася ў горад, што быў у якіх дзесяці кіламетрах ад іхняга сяла, прывозіла розныя прадукты і выменьвала тут на соль, вопратку.

Пакуль крыху паснедалі, запрэглі каня, неба ўжо заружавела. Зіна выехала са двара, і калёсы патарахцелі па бруку вуліцы, што вяла на ўскраіну горада, дзе пачыналася дарога да яе родных Ліжнікаў. Раптам убачыла на вуліцы нямецкую машыну. За рулём нікога не было, затое ў двары аднаго з дамоў моцна гергеталі фашысты, чуўся жаночы енк, заходзілася ад плачу дзіця. Нечакана з двара выскачыла маладая яўрэйка. Яна падбегла да Зінінага воза і кінула туды нейкі пакунак.

— Хутчэй едзь адсюль, родненькая!... Зберажы яго, не аддавай немцам!

Сказаўшы гэта, яўрэйка кінулася ў суседні двор, а Зіна са страху сцебанула дубцом па кані. Ён што ёсць моцы панёсся па вуліцы.

За возам ніхто не гнаўся, і, выскачыўшы за горад, конь пайшоў паволі. Зіна яго не прыспешвала. Толькі цяпер яна ўспомніла пра пакунак, што кінула ў воз яўрэйка. Адхіліла блакітную посцілку, у якую ён быў закручаны, і ўбачыла смуглы тварык маленькага, гадкоў чатырох, хлопчыка. Ён быў такі спалоханы, што не прамовіў ні слова, нават не заплакаў.

Кабета зноў захіліла ражок посцілкі і са страхам падумала: што будзе з ёй, калі раптам гэты пакунак зацікавіць немцаў? Застрэляць і малога яўрэйчыка, і яе. А дома ж, у родных Ліжніках, старая хворая маці ды маленькі Уладзік, які і так пакрыўджаны лёсам, бо расце без бацькі. Зінка прыжыла яго ў дзеўках.

— Не дачакаюцца яны тады ні мяне, ні солі, — з трывогай думала маладзіца. — Можа выпусціць гэта дзіцянё, і няхай ідзе, куды вочы глядзяць? Міну пераезд ды так і зраблю. У бліжэйшай вёсцы выпушчу на вуліцу. Хто-небудзь падбярэ, дагледзіць, — знайшла рашэнне.

Але, пад'язджаючы да пераезда, убачыла, што там сабралася шмат фашыстаў. Яны спынялі і пешых, і конных, абмацвалі вопратку, рыліся ў вазах. У Зіны памлелі рукі і ногі. Усё..., — стукала малаточкамі ў скронях кроў. — Усё...

Нядужымі ад страху рукамі яна выблытала з блакітнай посцілкі маленькага яўрэйскага хлопчыка і пасадзіла сабе на калені, а калі пад'ехала да пераезда, саскочыла з воза і падбегла да нямецкага афіцэра:

— Забяры, паночку, на дарозе падабрала, каб вам здаць, — і працягнула маленькага.

— Гут! — пахваліў немец. Ён узяў дзіцятка і кінуў яго ў кузаў грузавіка, што стаяў побач. Малы, відаць, аб нешта стукнуўся, бо моцна заплакаў.

— Гут! — зноў паўтарыў немец, паказваючы рукой, што Зіна можа ехаць.

Кабета ўжо далёка ад'ехала ад пераезду, а ў вушах усё яшчэ стаяў дзіцячы плач.

Дома яна нікому не расказала пра тое, што здарылася ў дарозе. На пытанне маці, адкуль у яе блакітная посцілка, сказала, што выменяла на бульбу.

Вайна рабіла сваю страшную справу: яна касіла людзей не толькі на франтах, але і ў вёсках. Захварэўшы на запаленне лёгкіх, неўзабаве памерла Зініна маці, а праз паўгода ўтапіўся ў вясковай сажалцы яе маленькі сынок. Быў ён тады акурат у такім узросце, як той яўрэйскі хлопчык. Зіна думала, што сэрца разарвецца ад гора і болю, што не зможа яна жыць на свеце адна, як былінка ў полі. Але час —найлепшы лекар. Гора было ўсюды, няшчаснымі былі ўсе, і маладзіца неяк звыклася са сваім становішчам, цягнула ў адзіноце нудныя і шэрыя, як шарачковая нітка, дні.

Вайна закончылася. У вёску пачалі вяртацца яе жыхары. Хто да хат, хто да папялішчаў. У Зіны хата ацалела, і яна адчувала сябе гаспадыняй. Мабыць, дзякуючы гэтай акалічнасці, яна хутка знайшла сабе прымака: да суседа прыехаў франтавы сябар — бязрукі інвалід Сцяпан, якому не было куды дзявацца, бо ўсю сям'ю і сядзібу знішчылі немцы недзе аж пад Бранскам. Сусед пасватаў яму Зіну, і неўзабаве Сцяпан перанёс да яе свой фанерны чамаданчык і стары, паношаны шынель.

Аднойчы, было гэта на другі год пасля вайны, яснай летняй раніцай Зіна павесіла на двары для прасушкі ўсё сваё багацце са старога, яшчэ мацярынскага куфра: шарсцяныя хусткі, спадніцы, сувой палатна, посцілкі. Была сярод іх і тая посцілка, што некалі разам з хлопчыкам кінула ў воз маладая яўрэйка: па блакітным полі вытканы сінія васількі. Прыгожая, можна сказаць, шыкоўная рэч. Зіна не магла адарваць ад яе позірку.

— Што, дабром сваім любуешся? — спынілася ля варот Кацярына Мельнічыха з таго канца вёскі. Зіна аж падскочыла ад нечаканасці, нібыта яе засталі за ганебным заняткам.

— А ў нашым канцы ходзіць нейкая яўрэйка, — паведаміла далей Кацярына. — Сама маладая, а валасы ўсе сівыя. Пытае, ці не бачыў хто маленькага хлопчыка. Нібыта яна ў час вайны кінула яго ў воз нейкай жанчыне. Ні вёскі, адкуль тая жанчына, ні імя яе не ведае. Але ходзіць, пытае... Бедная. Хіба знойдзе яна дзіцятка пасля такой калатнечы. Тут дарослыя гінулі, як мухі, а то дзіцятка...

Ледзь дачакаўшыся, пакуль Кацярына адыдзе ад варотаў, Зіна зняла з плоту блакітную посцілку і памчалася з ёй у хату. Зачыніўшы дзверы на засаўку (добра, што Сцяпана якраз не было), яна затаілася ў хаце. Потым падышла да печы, у якой яшчэ не патух жар, і кінула на яго посцілку. Блакітную тканіну адразу ж пабіла на чорныя плямы прапалін, а потым уся яна ўзялася полымем.

Зіна стаяла ля акна і праз шчыліну між паркалёвымі занавескамі сачыла за вуліцай, чакала, калі прыйдзе ў іхні канец вёскі тая яўрэйка. І дачакалася. Худая, з сівымі валасамі, што так не пасавалі да маладога твару, яна пільна ўглядалася ў Зініна дабро, якое сушылася ў двары, потым адчыніла брамку і зайшла на надворак. Грукнула ў дзверы, але, убачыўшы, што яны замкнёны, зноў пайшла на вуліцу, азірнулася на сядзібу. Шукала сляды свайго сыночка... І не знаходзіла...

Яўрэйка паволі пайшла далей, а Зіна стаяла ў здранцвенні. Ёй стала страшна. І тады яна ўпершыню падумала, які подлы ўчынак здзейсніла, аддаўшы немцам таго маленькага хлопчыка. Яна ратавала сваё дзіця і маці, а дзе яны цяпер? Абое ляжаць у зямлі. Не ўратавала...

— Дагнаць яе, расказаць усю праўду! — Зіна памкнулася да дзвярэй і ўжо ўзялася за клямку.

— Не даруе... І ніхто мне не даруе, калі Бог не даравў. Так і буду жыць у страху і ў вечным граху, — праносіліся ў галаве думкі. — Посцілку спаліла, а дзе, на якім вогнішчы спаліць памяць? Дзе знайсці лекі ад душэўных пакут, бо з імі ж прыйдзецца жыць да канца дзён?

Мінуў год. У адну з летніх раніц ад Зіны пайшоў Сцяпан. Жыццё ў іх не ладзілася, і ён сабраў свае небагатыя пажыткі ды накіраваўся на родную Браншчыну, дзе жыла адзінокая старая цётка. А праз некалькі дзён суседка паведаміла Зіне:

— Ці чула ты, тая яўрэйка, што летась хадзіла па вёсцы і шукала хлопчыка, звіхнулася розумам.

— А дзе яна цяпер? — аж устрапянулася Зіна.

— Сядзіць на ўскрайку вёскі пад крыжам і размаўляе са сваім сыночкам. Відаць, уяўляе, што ён бегае каля яе, і яна то шчасліва смяецца, то расказвае яму нешта на яўрэйскай мове... Бедная, — гаротна прамовіла суседка. — Прападзе, бо, казалі, адна і засталася на ўсім белым свеце. А яшчэ Бог розум адняў.

І раптам нібы што падштурхнула Зіну:

— Не прападзе! — прамовіла цвёрда. — Я вазьму яе да сябе. Удзвюх будзем гора гараваць.

Яна рашуча пайшла ў канец вёскі да крыжа, дзе адзінокая сядзела і смяялася свайму страчанаму шчасцю гаротная яўрэйка...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# НІХТО НЕ ХАЦЕЎ ПРАЙГРАВАЦЬ

## Камунальнік — Дынама-Юні (Мінск) 1 — 1

Слонім. 5 траўня. Стадыён "Дынама". 2 500 гледачоў.

Суддзя: Аляксей Кульбакоў (Гомель)

Камунальнік: С.Бекіш, С.Чэпкі (15, М.Горбач), В.Дзегіль, А.Дзегіль, В.Кірыленка (73, М.Мажэйка), А.Цішчанка (66, А.Місюк), А.Вярбіцкі (К), Л.Варанцоў, А.Баль, М.Астапчык, Д.Аначэнка.

Галы: 40, С.Гутнікаў; 85, А.Вярбіцкі.

Папярэджанні: 48, Бекіш; 49, Горбач; 88, Астапчык ("Камунальнік");

41, Драбушэўскі; 58, Мартынаў; 62, Чарных ("Дынама-Юні").




*Радасць балельшчыкаў пасля гола А.Вярбіцкага*

Пасля двух тураў саపернікі футбольнага матчу, які праходзіў у суботу, 5 траўня, знаходзіліся ў супрацьлеглых частках турнірнай табліцы. І, калі мінскім дынамаўцам перамога была патрэбна кроў з носу, каб вылезці з "падвалу", то "Камунальнік" прайграваць не збіраўся, адведаўшы ўжо смак перамог.

І хоць у той дзень пераможцам ніхто не стаў, вынік гульні хутчэй быў на карысць нашай камандзе. Ды і лік матчу мог быць зусім іншым.

Слонімскія футбалісты пачалі гульню актыўна. На шостай хвіліне на трываласць варатара гасцей праверыў Алег Вярбіцкі. На 10-й хвіліне двойчы наносіў удар Анатоль Дзегіль, але на шляху мяча да варотаў паўставалі абаронцы мінчан.

Дынамаўцы таксама ў абароне не адседжваліся, і на 16-й хвіліне Сяргей Бекіш ледзь здолеў перавесці мяч з-пад перакладзіны на вуглавы пасля моцнага ўдару з-за межаў штрафной Аляксандра Амяльковіча.

Недзе ў сярэдзіне першага тайма ў "Камунальніка" атрымалася добрая контратака з удзелам А.Дзегіля, Дзімы Аначэнка і Алега Вярбіцкага. Апошняга паклалі на газон паблізу штрафной мінчан. Як звычайна ў такіх выпадках, штрафны ўдар выконваў Аляксей Баль. Нажаль, мяч, які прабіў сценку з шасці дынамаўцаў, парыраваў варатар.

Стопрацэнтны момант упусцілі на 29-й хвіліне госці, калі, добра разыграўшы мяч у нашай штрафной, з трох метраў прабілі вышэй варотаў.

Абарона ў "Камунальніка" — не самае моцнае звяно, і на 40-й хвіліне няўзгодненасць дзеянняў нашага варатара і абаронцаў прывяла да гола. Удар метраў з 23 пасля няўдалай гульні абаронцаў нанёс Сяргей Гутнікаў. З левага ніжняга ад сябе вугла Бекіш выцягнуць мяч не здолеў нават у адчайным кідку. 0:1.

Другі тайм выдаўся для слонімцаў больш удалы. Магчыма, адыгралі сваю ролю праведзеныя замены, але гульня ў атацы стала больш асэнсаванай. Алег Вярбіцкі выйграваў амаль усе верхавыя мячы, добра індывідуальна ігралі па цэнтру і флангах Мікалай Астапчык і Леанід Варанцоў, шторазова вострa навешваў мяч у штрафную Анатоль Дзегіль.

На 78-й хвіліне, пасля добрай шматхадоўкі Місюк — Вярбіцкі — Мажэйка, апошні атрымаў перадачу ў зручнай пазіцыі, перакінуў варатара метраў з 12-ці, але ж мяч прайшоў крыху вышэй перакладзіны.

Намаганнямі гэтага ж трыо мяч на 85-й хвіліне парваў павуціння ў дынамаўскіх варотах. Мікалай Мажэйка ў барацьбе зарабіў вуглавы з правага флангу. Выканаў вуглавы ўдар Анатоль Дзегіль. Мінчане адбіваюць падачу, але недалёка. З-за межаў штрафной моцны ўдар наносіць Андрэй Місюк, трапляе ў абаронцу. Першым каля мяча апынуўся Алег Вярбіцкі. Дакладны ўдар — гол! Засумаваўшыя раней балельшчыкі ўзняліся з лавак, вітаючы поспех нашай каманды.

Натхнёныя футбалісты "Камунальніка" зайгралі з падвоенай актыўнасцю, але ж ледзве не прапусцілі мяч у свае вароты. Пасля прастрэлу справа дынамаўца Максіма Цыгалкі, Кірылу Андрэенка заставалася толькі падставіць нагу, але ён не здолеў гэта зрабіць, і мяч праляцеў у метры ўздоўж варот.

Галоўны трэнер "Камунальніка" Леанід Савіцкі пасля матчу адзначыў, што гульня ў слонімцаў была "рваная", а абарона — слабая.

— Не ўпэўнены, што гульні будуць "смачныя", але гарачыя — абавязкова,— зазначыў Леанід Альбінавіч.

Матч 4-га тура "Камунальнік" прапускае. Наступная гульня адбудзецца 19 траўня (субота) супраць "Зоркі-ВА-БДУ" з Мінску.

### ВЫНІКІ АСТАТНІХ матчаў 3-га тура

| | |
|---|---|
| Хімік — Свіслач-Кроўля, | 2-0 |
| Граніт — ЗЛіН, | 3-0 |
| Дарыда — Зорка-ВА-БДУ, | 1-0 |
| Нёман — Керамік, | 1-2 |
| Рагачоў-ДЮСШ-1 — Тарпеда, | 0-3 |

Матч "Тарпеда-Кадзіна — Ліда перанесены на 7 траўня

**Валерый КАВАЛЕНКА**




*Мікалай Мажэйка перакідвае мяч праз варатара мінчан*

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 2-ГА ТУРА

| | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Камунальнік | 3 | 2 | 1 | 0 | 7 | 4-1 |
| 2. Орша | 2 | 2 | 0 | 0 | 6 | 5-2 |
| 3. Тарпеда | 3 | 2 | 0 | 1 | 6 | 5-2 |
| 4. Хімік | 3 | 2 | 0 | 1 | 6 | 4-3 |
| 5. Дарыда | 2 | 2 | 0 | 0 | 6 | 3-1 |
| 6. Тарпеда-Кадзіна | 2 | 2 | 0 | 0 | 6 | 2-0 |
| 7. Граніт | 2 | 1 | 1 | 0 | 4 | 4-1 |
| 8. Свіслач-Кроўля | 3 | 1 | 1 | 1 | 4 | 3-2 |
| 9. Ліда | 2 | 1 | 1 | 0 | 4 | 2-0 |
| 10. Керамік | 3 | 1 | 0 | 2 | 3 | 3-6 |
| 11. Нёман | 3 | 0 | 1 | 2 | 1 | 4-6 |
| 12. Дюнама-Юні | 3 | 0 | 1 | 2 | 1 | 3-5 |
| 13. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 3 | 0 | 1 | 2 | 1 | 2-8 |
| 14. Зорка-ВА-БДУ | 3 | 0 | 1 | 2 | 1 | 1-3 |
| 15. ЗЛіН | 3 | 0 | 0 | 3 | 0 | 1-6 |

# ТРОЕКРАТНЫЙ ЧЕМПИОН по каратэ — слонимчанин

**6 мая в Слониме прошло III первенство Республики Беларусь среди юношей по киокушинкай каратэ-до.**

Соревнования проводились по олимпийской системе (проиграл, — выбыл), и на татами в этот день выходили около 60 спортсменов из Минска, Витебской, Брестской, Гомельской, Могилевской областей и города Слонима.

Среди юношей 1986-88 г.р. победителями стали: в весовой категории до 45 кг Олег Кравчук (Брест), до 52 кг — Евгений Остапчик (Слоним, СШ №2), до 56 кг — Александр Синяков (Витебск), до 61 кг — Алексей Якубовский (Могилев), до 65 кг — Дмитрий Арощенко (Гомель), до 75 кг — Роман Аракелов (Брест).

В старшей возрастной группе (1984-85 г.р.) лучшие определялись в трех весовых категориях: до 62 кг — Дмитрий Крючков (Гомель), до 70 кг — Артем Варянько (Минск), свыше 70 кг — Юрий Быховцов (Гомель).

Поддержать юных каратистов пришло более сотни зрителей. И они не были разочарованы и увидели на татами бескомпромиссную, зрелищную борьбу.

В целом соревнования прошли достойно благодаря помощи ДЭУ-54 г.Слонима и ОАО "Слонимский мясокомбинат".

Слонимских любителей спорта можно поздравить — III-е первенство дало Слониму теперь уже троекратного чемпиона Беларуси по киокушинкай каратэ-до Евгения Остапчика. К соревнованиям его, как и всю команду нашего города, подготовил тренер Василий Максимов.

**Валерий КОВАЛЕНКО**




НАВІНЫ

## "НЁМАН" ДОМА ЗГУБІЎ АЧКІ

**У чарговым туры мастоўскі "Нёман" прымаў бярозаўскі "Керамік". Каманду, якая за два туры не набрала ні аднаго ачка і знаходзілася на апошнім месцы.**

Гасцям не было чаго губляць, і таму яны пайшлі шукаць свайго шчасця ля варотаў гаспадароў поля.

Мастоўскія футбалісты выйшлі на поле сваім звычайным складам, які нічым не адрозніваўся ад складу двух мінулых сустрэч. Гэта ў некаторай ступені сведчыць аб тым, што трэнер мае пэўныя праблемы з фарміраваннем каманды.

Гульня праходзіла на роўных, але больш асэнсаванай яна была ў гасцей. Мастаўчане іншы раз дзейнічалі востра, ды толькі гэта не прыносіла плёну: не ішоў мяч у вароты "Кераміка". У першай палове першага тайма госці забіваюць мяч, але гэты эпізод не змяніў малюнак гульні. На 63-й хвіліне за знос футбаліста "Кераміка" суддзя прызначае пенальці ў вароты мастаўчан, і госці падвойваюць лік. Толькі пасля гэтага гола гаспадары распачалі штурм варотаў гасцей і на 67-й хвіліне сустрэчы пасля падачы вуглавога Уладзімір Кухлей забівае гол у адказ. Гэта адзінае, што ўдалося мастаўчанам.

Да фінальнага свістка гульня працягвалася ў тым жа тэмпе. Праўда, госці маглі павялічыць лік, але ў тых крытычных выпадках надзейна згуляў Пётр Жукоўскі. Урэшце, лік 1:2.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## СЛОНИМСКИЕ ЛЫЖНИКИ ВЫСТУПАЛИ В МУРМАНСКЕ

**В Мурманске состоялся 67-ой традиционный праздник Севера, и впервые в нем приняли участие представители города Слонима Сергей Волчунович и Сергей Мацкевич.**

Их выступление на международных соревнованиях можно считать успешным. В программу лыжных соревнований входили гонки на дистанции 5 км классическим стилем, 15 км свободным стилем и лыжный марафон 50 км свободным стилем. Сергей Волчунович занял 8, 6 и 23-е места, а Сергей Мацкевич — 10, 11 и 27-е места соответственно среди спортсменов в возрастной группе 30-35 лет.

В Мурманск слонимские лыжники приехали за свой счет и очень жаль, что КБЗ "Альбертин", где они работают, не поддержал их. К сожалению, в стороне оказался и Слонимский городской спорткомитет.

**Федор ПОШЕЛЮК,**
Президент Ассоциации любителей лыжного спорта Республики Беларусь

## ТРЭЦІ — ТАКСАМА ВЫНІК

**На Кубку Беларусі па веславанню на байдарках і каноэ, які прайшоў у Гомелі, вызначыўся выхаванец Слонімскай СДЮШАР №2 Андрэй Дубіна (зараз — УАР, г.Масты).**

Ён быў трэцім на дыстанцыі 1 000 м на каноэ-адзіночцы.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

# СЫТЫ ГАЛОДНАГА НЕ РАЗУМЕЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1 стр.)**

Аднак размова педагогаў з чыноўнікамі ў прызначаны час (13-40) не пачалася. Начальству не спадабалася, што ў зале прысутнічаюць карэспандэнты недзяржаўнай газеты. Таму нас папрасілі пакінуць памяшканне. У адваротным выпадку чыноўнікі адмаўляліся весці з педагогамі размову. Пры гэтым Алег Мікалаевіч узгадаў нейкі ўказ прэзідэнта краіны, які забараняе адказным афіцыйным асобам даваць інфармацыю журналістам недзяржаўных СМІ. Магчыма, тут мэр пераблытаў указ з якімсьці сакрэтным цыркулярам для службовага карыстання, бо названага ім указу прэзідэнт не выдаваў. А вось у законе РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" ясна сказана, што своечасова атрымліваць праўдзівую інфармацыю, якая не з'яўляецца сакрэтнай, у тым ліку і ад службовых асоб, маюць роўнае права ўсе дзейсныя журналісты, не залежна ад форм уласнасці выданняў, у якіх яны працуюць. Ды што там законы нашым чыноўнікам. Калі некаторыя настаўнікі на патрабаванне функцыянераў, каб мы (М.Кахановіч і В.Гіль) пакінулі залу, заявілі, што ў такім разе яны таксама пойдуць следам, тады "бацькі горада" пачалі шальмаваць у сваіх выказваннях спачатку "Газету Слонімскую", а потым перайшлі і на асобы прысутных журналістаў. У прыватнасці, паказваючы пальцам на фотакарэспандэнта Віталя Гіля, старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын сказаў, што супраць гэтага чалавека ён нічога не мае, а вось гэтаму (мне – М.К.) – няма веры. Таму мэр, бачыце, не ўпэўнены, што ў газеце потым праўдзіва будзе пададзена інфармацыя пра сустрэчу. Падтрымаў свайго шэфа загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аркадзь Бумагін. Ён паведаміў прысутным, што аўтар гэтых радкоў раней працаваў настаўнікам і быў звольнены са школы за антыпедагагічны ўчынак.

Сапраўды, каля трох гадоў назад мяне "звольнілі" з працы за адны суткі, але па асабістаму жаданню, каб інцыдэнт на ўроку не стаў прадметам шырокага разгалоску. А потым выселілі і з інтэрната, дзе я пражыў шэсць сваіх настаўніцкіх гадоў і не зарабіў за гэты час не толькі на нейкае жыллё, але і на штамп інтэрнацкай прапіскі ў новым пашпарце... Урэшце, нам нічога не заставалася, як сысці. І ўсё ж вернемся да нашай тэмы.

Як потым стала вядома карэспандэнтам "ГС", ніякай сакрэтнай інфармацыі прадстаўнікі ўлады настаўнікам школы ў той дзень не сказалі. На тое, што заробак педагогам выплочваецца не своечасова і часткамі, у чыноўнікаў было адно тлумачэнне – у гарадскім бюджэце няма грошай. І ў сувязі з гэтым, маўляў, настаўнікі, дактары, бібліятэкары і іншыя бюджэтнікі павінны праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю і патрываць да лепшых часоў. Праўда, калі надыдуць тыя лепшыя часы – ніхто канкрэтна сказаць не змог. А той факт, што спачатку дактары, а потым і настаўнікі пачалі пасылаць праз прэсу адкрытыя лісты прадстаўнікам улады, апошніх вельмі непакоіць. Таму і прыехалі ў школу так хутка пасля выхаду газеты, таму і разбіралі (пасля таго як журналісты пакінулі залу) дэтальна кожны сказ пісьма настаўнікаў, і шальмавалі газету, якая гэты ліст надрукавала. Атрымліваецца, што сённяшнія "дзяржаўныя" людзі інакш як паўшчуваць галоднага работніка за тое, што той хоча есці і патрабуе заплаціць яму зароблены грошы – па-іншаму рэагаваць не ўмеюць. Але, як высвятляецца, у іх заўсёды знойдзецца "костка" у выглядзе часткі авансу ці заробку, каб падаць надта патрабавальным. Вось і настаўнікам другой школы ў той жа дзень выплацілі па 15 тысяч рублёў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## ЛУКАШЕНКО ВНОВЬ ВЗЯЛСЯ КОНТРОЛИРОВАТЬ ВСТУПИТЕЛЬНЫЕ ЭКЗАМЕНЫ

**И в этом году Александр Лукашенко решил взять под свой контроль вступительные экзамены в высших и средних специальных учебных заведениях республики.**

Среди основных нововведений, как сообщил министр образования Василий Стражев, – разрешение поступать одновременно в несколько вузов. Также, в этом году при поступлении вводится экзамен по иностранному языку: пока в 25 вузах и не на всех специальностях. Уровень требований к иностранным языкам, по словам министра, будет разный, в зависимости от вуза.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ**

## З НАГОДЫ КАНСТЫТУЦЫІ

**У нядзелю, 6 траўня, у слонімскім Доме афіцэраў адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 210 гадавіне прыняцця першай у Еўропе і другой у свеце Канстытуцыі 3 траўня.**

На сход прыйшлі сябры з гарцэжскай дружыны, настаўніцы польскай мовы разам з дзецьмі, а таксама шмат членаў Слонімскага раённага аддзялення саюза палякаў. Бібліятэкарка польскай бібліятэкі Вацлава Ефрэменка прачытала рэферат, прысвечаны Канстытуцыі 3 траўня.

**Леанарда РЭЎКОЎСКАЯ**

ЗДАРЭННІ

## Суіцыд у Слоніме

**У Слоніме пакончыў жыццё самагубствам 22-гадовы слонімец Р.**

Яго знайшлі павешаным на гарышчы бацькоўскай хаты. Гэта другі выпадак суіцыду на працягу двух тыдняў у нашым горадзе.

## Кватэру спаліць не ўдалося

**Як стала вядома карэспандэнту "ГС", у Зэльве невядомыя асобы спрабавалі падпаліць кватэру начальніка міліцыі.**

Пажарныя своечасова патушылі агонь. Абгарэлі толькі дзверы. Міліцыя вядзе праверку.

## Укралі коней...

**У вёсцы Новая Стража Слонімскага раёна злодзеі ўкралі ў вяскоўцаў двое коней.**

Міліцыя шукае злачынцаў.

## ...магнітолу...

На вуліцы Мінскі тракт з аўтамабіляў зніклі аўтамагнітолы. Міліцыя затрымала рабаўнікоў. Імі аказаліся раней судзімыя асобы.

## ...аўтамабіль...

З мікрараёна "Энка" невядомыя ўгналі аўтамабіль ВАЗ-2108.

## ...салярку...

На Слонімскім ільнозаводзе злодзеі ўкралі больш за 100 літраў саляркі. Міліцыя праводзіць праверку.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## КАНЦЭРТЫ, ФЕСТЫВАЛІ...

**9 траўня па запрашэнню Зэльвенскага райвыканкама ў Зэльве выступіў з канцэртам калектыў мастацкай самадзейнасці Слонімскага РДК.**

У канцы траўня ў г.Калінкавічы Магілёўскай вобласці адбудзецца Міжнародны фестываль "Залатая пчолка". Ад Гродзеншчыны ў ім выступіць узорны тэатр эстрадна-спартыўнага танца "Каскад" (кіраўнік Зоя Пятроўская) са Слоніма. Дарэчы, нядаўна на абласным фестывалі "Фантазіі вясны" "Каскад" заняў першае месца.

20 траўня народны ансамбль "Рабіначка" упершыню прыме ўдзел у абласным фестывалі вакальных груп і хароў, які адбудзецца ў Гродзенскім раёне.

## ПРА ЛЁС ПІСЬМЕННІКАЎ 20-30-Х ГАДОЎ

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці ў Мінску, адкрылася выстава "Беларуская літаратура 20-30-х гадоў XX стагоддзя".**

Сярод экспанатаў, якія расказваюць пра жыццёвыя і творчыя шляхі пісьменнікаў у 20-30-х гадах, ёсць матэрыялы, звязаныя з творчасцю слонімскіх літаратараў – Сяргея Дарожнага, Гальяша Леўчыка, Валянціна Таўлая і Анатоля Іверса. На выставе прадстаўлены іх першыя кнігі, фотаздымкі, пісьмы і асабістыя рэчы.

## УШАНАВАЛІ ЮБІЛЯРА

**У Слонімскім РДК адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 70-годдзю нашага земляка, пісьменніка і вучонага Алега Лойкі.**

У ёй прынялі ўдзел творчая інтэлігенцыя Слонімшчыны, сябры і землякі юбіляра.

4 траўня літаратурная вечарына Алега Лойкі прайшла і на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Павіншаваць Алега Антонавіча прыйшлі выкладчыкі універсітэтаў і інстытутаў Мінска, навукоўцы Нацыянальнай Акадэміі Беларусі, пісьменнікі і студэнты.

## КАЛЕНДАРЫ СЛОНІМСКАЙ ДРУКАРНІ

**Два насценных каляровых календары на 2002 год выпусціла Слонімская ўзбуйненая друкарня.**

На адным з іх адлюстраваны касцёл Святога Андрэя, а на другім - канал Агінскага. Тыраж календароў - 1000 экземпляраў кожны. Фотаздымкі зрабіў слонімскі фатограф Уладзімір Янушэвіч.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ЦІ ПРЫЛЯЦІЦЬ "КРЫШТАЛЬНЫ ЖУРАВЕЛЬ-2001" У МАСТЫ?

**Прайшоў першы этап Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель-2001".**

Па выніках папярэдняга адбору Гродзенскую вобласць прадставілялі настаўнік фізікі з Ліды Анатоль Мацюк, настаўнік гісторыі са Слоніма Алег Леановіч і настаўніца беларускай мовы і літаратуры з Мастоў Святлана Палубятка. Яна найбольш паспяхова выступіла на гэтым этапе конкурсу. Аб тым нават засведчыла "Настаўніцкая газета". Неўзабаве адбудзецца другі этап конкурсу, дзе Святлана Іванаўна працягне змагацца за званне "Настаўнік года".

**Антон МАКЕЙ**



Фота Віталя Гіля

# МОГИЛЫ НЕ НАШИ, НО ОБЩАЯ БОЛЬ

**(Продолжение. Начало на 1 стр.)**

Да и о живых еще ветеранах раз в год вспоминаем. А просто выжившие в военное лихолетье, но жизнью рисковавшие и горя хлебнувшие не меньше фронтовиков, сейчас – рядовые пенсионеры. И доживают они свой век, считая каждый рубль от пенсии до пенсии, и только что милостыню еще не просят.

В крови это у нас, что ли, – по костям своим и чужим в завтрашний день идти? Кости только разные. Одни уже в прах превратились, с землей смешались и забыты. На других же плоть еще живая держится, но уже и они забыты или будут забыты совсем скоро.

Что ж, забыли мы, и нас точно так же забудут. И на наших могилах хорошо если лес вырастет. А то ведь, третья и десятая школы с "Бермудами" на еврейском кладбище стоят. А в Рязановщине, по утверждению старожилов, автобусная остановка на костях немецких солдат построена.

Да что нам о прошлом думать, о прахе беспокоиться? Тем более о прахе захватчиков. Выжить бы сегодня самим, да детей вырастить. Любой ценой... А не слишком ли высока цена эта, и если цель - забвение, зачем нужна такая цель?

Надо помнить все. Надо беречь каждую крупицу истории, – она у нас общая. И Земля у нас - одна. И с мертвыми, кстати, не воюют.

К оккупантам и нужно так относиться, скажете вы. Будущим поколениям наука будет! "Кто с мечом к нам придет, от меча и погибнет...". Верно, вроде бы. Но даже и в этой точке зрения противоречие таится. Могилы воинов-освободителей у нас на каждом шагу встречаются, а где же захватчики? То ли и вовсе их не было, то ли не гибли они здесь?

Могилы захватчиков, пришедших на нашу землю за своей смертью, – не это ли лучшая наука. И верный способ спустя полвека восстановить связь времен, поколений и народов. Ведь не секрет, что не ищем мы себе больше врагов. Так давайте найдем друзей, еще одних друзей в родственниках погибших на белорусской земле солдат вермахта. Это важно уже для нас, живущих сегодня, и для тех, кто придет после нас. Это - история.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

Газета Слонімская
10 — 16 траўня 2001 г., № 19 (205)

Уважаемого
**Василия Игнатьевича ОЗЁРОВОГО**
поздравляем с юбилеем!

Полсотни лет — хороший срок,
И нет нужды печалиться,
Пускай ещё полста пройдёт,
Не надо только стариться.

И в этот светлый, тёплый день
Тебя мы поздравляем,
Здоровья, счастья и добра
От всей души желаем.

**От бригады Слонимского лесозаготовительного пункта**



Любимые наши папочка и мамочка
## Николай Иванович и Алла Николаевна БЕКРЕНИ!
От всего сердца, с огромной любовью и теплотой поздравляем вас с юбилеем!



Пусть грусть и беда обойдут стороной,
Пусть в доме всегда будут мир и покой,
Пусть каждый день удачу вам приносит,
Пусть солнце светит вам всегда,
Пусть в вашей жизни не наступит осень
И медленней бегут года.

**От дочери Ольги и зятя Олега**



Дорогой, любимый муж и отец
**Пётр Иванович МАЛАШ!**
От всей души поздравляем тебя с 50-летним юбилеем!

50 — это много и мало,
Это в жизни проложенный путь.
Не всегда были розы в дороге,
Но с неё никуда не свернуть.
Было трудно, но ты не сдавался,
Было больно — не хныкал ты.



И всегда ты собой оставался,
И порою сбывались мечты.
Быть таким мы тебе желаем
Много лет, много радостных дней.
С днём рожденья тебя поздравляем,
Будь здоров, и душой не старей!

**С любовью жена, дочери и зять**



Дорогая, любимая доченька, сестра
**Вера Анатольевна ЯРОШКО!**
От всей души поздравляем тебя с днём рождения!



Пусть этот день, который ты встречаешь,
Счастливой датой в жизнь твою войдёт,
И всё хорошее, о чём мечтаешь,
Пусть сбудется и пусть придёт.
Пусть в счастье распахнутся двери,
И всё, что прожито, не зря.
Ты знай: в тебя мы очень верим
И очень любим мы тебя.

**С огромной любовью папа, мама, брат Дима**



## Галину Яковлевну ГОЛОВАЧИК
от всего сердца поздравляем с 45-летием!



Любимая мама! От чистой души
Тебя с днём рожденья поздравить спешим!
Хороший Ты наш, дорогой Человек,
Пусть дольше продлится твой жизненный век!
Здоровье и счастье к Тебе пусть придут,
Обиды и горе пускай позабудут.
Спасибо, родная, за то, что живёшь,
Детей воспитала, внучат бережёшь.

**Твои сын, дочка, невестка и внучка**



Дорогая наша
**Полина ЛОМАКО!**
От всего сердца поздравляем тебя с днём рождения!

Радость наша, ты прелестна,
Беззаботна и легка,
И щебечешь, словно птичка,
Пляшешь лучше мотылька,
Даришь людям всем улыбки,



Вся семья покорена.
Будь счастливой, радость наша!
Умной, доброю расти,
Сказочной удачи чаша
Ожидает впереди!

**С любовью крёстная Лена, бабушка, дедушка, тёти Оля, Марина, Снежана**



Дорогой, любимый
**Юрий Васильевич ФЕДОСИК!**
С огромным теплом поздравляем тебя с 20-летием со дня рождения!



У Тебя сегодня юбилей.
И мы от всей души желаем:
Пусть стороной пройдут ненастья,
Здоровьем полнится Твой век.
Тебе желаем только счастья,
Наш самый милый человек.

**С любовью мама, дядя Володя, бабушка Наташа, дядя Павел, братики, тётя Валя, дядя Коля**



Владимира Владимировича и Татьяну Михайловну КАРПОВИЧЕЙ
поздравляем с 25-летием совместной жизни!

Ваш юбилей — совсем немного,
Но годы прожиты не зря.
Большая пройдена дорога,
Большие сделаны дела.
Пусть будет жизнь всегда такой:
Чтоб годы шли, а вы их не считали,
Вовек не старились душой
И никогда бы горько не вздыхали.



**Сын, дочь, зять.**



Уважаемый
**Ефим Наумович ГРИГОРЕЦ!**
*Горячо и сердечно поздравляем Вас с юбилеем, с 80-летием со дня рождения!*
*Желаем крепкого здоровья, долгих лет жизни, бодрого настроения, семейного благополучия и удачи во всех делах.*

**Совет ветеранов, личный состав Слонимского ГРОВД**



Дорогая
**Валентина ДУНЬКО!**
Поздравляем тебя с 20-летием!

Желаем счастья и добра,
Желаем жизни полной,
Желаем радости с утра
До самой ночи поздней.
Желаем в жизни всё успеть,
И не стареть, а молодеть.
Здоровье, бодрость сохранить
И много-много лет прожить.



**Любящие тебя мама, папа, брат Дима и бабушка Аня**



Дорогая, любимая доченька и сестрёнка
**Татьяна ЯКУБОВИЧ!**
От всей души поздравляем тебя с 18-летием!



Пусть будет жизнь твоя прекрасной,
В семье погода — только ясной,
Пусть льются нежных слов потоки,
Пусть радость в доме бьёт ключом,
Не режут слух слова-упрёки,
И беды будут нипочём.

**С уважением и любовью мама, папа, Оля и Павел**



Дорогую, любимую нашу доченьку и внученьку
## Настеньку ФИЛИППОВУ
поздравляем с днём рождения!
*Желаем тебе расти большой, здоровенькой, умненькой девочкой.*

Будь весёлой, нежной, ясной,
Беззаботной и прекрасной,
Чтоб смеялась ты беспечно,
Чтобы длилось счастье вечно,
Чтобы все мечты сбывались
И желанья исполнялись,
Чтоб была ты, как весна,
Юной прелести полна.
Мы тебя очень любим и помним.



**Твои папа, дедушка Володя и бабушка Лена**



Паважаная
**Ганна Ігнацьеўна ПРЫВОЛЬНЕВА!**
Віншую Вас з днём нараджэння!



Няхай імчацца гады, як вясновая вада,
Няхай жыццё часам вельмі складанае,
Але ты па-ранейшаму прыгожая.
З табою побач так надзейна,
Ты поглядам і ўсмешкай можаш
Начную цемру імгненна разагнаць.

**З павагаю Бельскі**



Дорогой
**Виталий Петрович ШУНДРИК!**
Искренне поздравляю тебя с 27-летием со дня рождения!

Желаю счастья, здоровья, благополучия.
Желаю бодрости и сил,
Чтоб каждый день прекрасный жизни
Одну лишь радость приносил.

*Пусть всегда в твоей жизни встречаются хорошие и добрые люди.*

**Без подписи**



Дорогой и любимый муж, папа и дедушка
## Константин Филиппович ШНЕК!
Поздравляем тебя с 60-летием!

60 лет прожиты не зря,
Близкие люди рядом всегда.
И хоть немного виски побелели,
Бодр как всегда и в труде ты уверен.
Ценим за добрые руки тебя,
Нежность и ласку твою без конца.
Ну, а сегодня в праздник такой,
Это отметим счастливой семьёй!



**С уважением и любовью жена, сын, дочь и их семьи**



Дорогой и любимый наш муж, папочка и дедушка
**Валентин Александрович ЯКУБЧИК!**
Поздравляем тебя с 41-летием!



Желаем счастья, здоровья,
Желаем не болеть, не волноваться,
В жизни чаще улыбаться.
Чтобы дети уважали,
Внуки радость приносили.
Пусть Бог тебя хранит,
Ты лучший муж,
Дедушка и папочка на свете.

**Любящие тебя жена, дети и внук Валентин**



Дарагі наш муж, тата і дзядуля
**Аляксандр Георгіевіч ДЗЯНІСІК!**
Шлюць віншаванні родныя табе з нагоды твайго 85-годдзя.



Няхай жыццё яшчэ гадоў дарує!
Залечыць раны вязня і сасланага.
Падасць здароўя ў майскі дзень,
Азорыць радасцю доўгачаканаю
І мудрасцю нявестку, зяця, унукаў і дзяцей.

**Твае родныя**



Дорогую, любимую
## Свету ПОТРОЙНУЮ
поздравляем с днём рождения!

Будь весёлой, нежной, ясной,
Беззаботной и прекрасной,
Чтоб смеялась ты беспечно,
Чтобы длилось счастье вечно,
Чтобы все мечты сбывались
И желанья исполнялись,
Чтоб была ты, как весна,
Юной прелести полна.



**С уважением и любовью дядя Коля, тётя Нина, подруги Оля и Катя Бегеры**



Дорогой именинник
**Михаил Михайлович ТАВРЕЛЬ!**
От всей души поздравляем тебя с юбилеем!

Сегодня радость у тебя в глазах,
А на душе — улыбка и волненье!
Ты вправе этот день своим назвать,
Ведь это дата твоего рожденья.
Пусть жизнь твоя беды не знает,
Удача не обходит дом,
Улыбка на лице сияет,



И радость всегда бьёт ключом.
Тебе хотим мы благ всех пожелать,
А с ними и солнечного света,
Гостей за праздничным столом.
Пусть будет жизнь твоя согрета
Любовью, радостью, теплом.

**С уважением и любовью мама, сёстры Наташа и Лена с семьями**



